Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на паўг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.

№ 7 (16) Вільня, 5-га чэрвеня 1937 г. Год II.

## Асновы і мэты каапэратывізму.

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары „Бел. Фронту“, сучасны капіталістычны лад давёў чалавецтва да вельмі цяжкога палажэньня. З аднаго боку паўстала невялікая група буйных капіталістаў, якія сканцэнтравалі ў сваіх руках прылады вытворчасьці (капітал), а з другога боку — цэлыя масы пралетарыяту, пазбаўленыя ня то што капіталу, але нават найпатрабнейшых рэчаў штодзённага жыцьця, ўжо не гаворучы аб сваей хаце або кавалку зямлі. І сапраўды — трэба было-б усумніцца ў вартасьць чалавецтва, калі-б яно ня шукала выхаду з таго паніжэньня і крыўды, ў якіх апынулася яго лепшая, працоўная частка і калі-б не паўсталі пляны рэформы, вядучай да поўнага вызваленьня чалавека - работніка. Прычынай гэтага зла, паводле эканамістаў, ёсьць вызыск працуючых масаў, пры якім працаўнік атрымлівае толькі частку вартасьці сваей працы, а ўся рэшта ідзе на карысьць капіталіста.

Пачатак і першы плян тварэньня новага, справядлівейшага ладу паўстае ўжо ў 17 стагодзьдзі, ў часе развіцьця г. зв. гандлёвага капіталізму. Тады ўжо ангельскі эканаміст Овэн кідае клічы супрацоўніцтва (каапэратывізму) ўсіх людзей, кажучы, што пры супрацоўніцтве можна выраўнаваць нароўнасьць людзкой прыроды (Овэн цьвярдзіў, што прырода ёсьць найбольшым ворагам роўнасьці). Тады-ж пачынаюць паўставаць і камуністычныя кірункі, якія бачаць справядлівейшы лад у спралетарызаваньні *ўсяго* чалавецтва. Характэрна, што пазьнейшы, марксаўскі камунізм загадывае нават у імя роўнасьці пралетарызаваць грамадзянства пры помачы сілы...

Ня лішне будзе тут адзначыць лучнасьць, якая існуе паміж капіталізмам і камунізмам у пралетарызаваньні мас: капіталізм *пачаў* пралетарызацыю работніцкіх мас, а камунізм мае на мэце *скончыць* яе... Каапэратывізм, наадварот, ня хоча і ня імкнецца да спралетарызаваньня мас: ён стаіць на грунце справядлівага падзелу грамадзкага капіталу, з тым, каб кожны грамадзянін меў магчымасьці злучыцца з другімі людзьмі ў узаемным супрацоўніцтве. Мы ўважаем, што як капіталізм, так і камунізм, ідучы да пралетарызаваньня работніцкіх масаў, прыносяць ім вялікую крыўду, бо адбіраючы ад іх прыватную ўласнасьць, адбіраюць ад іх і грамадзкую свабоду, гэты найбольшы дар чалавечы і робіць іх залежнымі ад таго рэжыму, які ў даным часе пануе. Дзеля гэтых прычын *каапэратывізм не касуе прыватнай уласнасьці, але пакідае* (*надзяляе*) *яе кожнаму ў такім ліку, каб ён мог злучыць яе ў супольным супрацоўніцтве.*

З гэтага галоўнага прынцыпу выплываюць асноўныя прыметы каапэратывізму, аб якіх будзем гаварыць.

Першай прыметай каапэратывізму ёсьць *дабравольнасьць*, беспрымусовасьць яго. Каапэратывізм у сваіх арганізацыях не прызнае прымусу, асабліва фізычнага, ведаючы добра, што чалавечая натура неахвотна спаўняе ўсе загады і пастановы, у якіх сама ня прымала ўдзелу. Праўда, ёсьць і арганізацыі прымусовыя, як дзяржава, армія або нават у некаторых дзяржавах і самаўрад, але кожны ведае, што нават гэтыя арганізацыі, калі апіраюцца не на праканаваньні, а выключна на прымусе, разьлятаюцца.

Другой прыметай каапэратывізму ёсьць *зьменнасьць* яго капіталу і асабістага складу. Супалка злучае капітал сьцісла азначаны, а лік супольнікаў у ёй мае значэньне другараднае. На першым месцы там стаіць лік капіталу. А ў каапэратыве прадусім кладзецца націск на лік сяброў, якія ўносяць свае паі дзеля ўзаемнай помачы.

Трэцяй прыметай каапэратывізму ёсьць *бяззыскоўнасьць* г. зн. адсутнасьць зыску ў бліжэйшых і далейшых мэтах. Капіталісты, якія зарганізаваліся дзеля асабістага зыску, могуць глядзець крыва на новых сяброў, каторыя да іх прыступаюць. А сапраўдны каапэратыў з радасьцяй прыймае новых сяброў, бо мэтай каапэратыву ёсьць злучэньне як найбольшай колькасьці асоб, з тым, каб заспакоіць іх гаспадарчыя і іншыя патрэбы. А кожны ведае, што дзялянка гаспадарчых патрэб ёсьць вельмі абшырная і заспакойваньне гэтых патрэб можа ісьці *ў розных кірунках.*

Якія-ж гэта могуць быць кірункі?

Знаем прадусім каапэратывы *спажывецкія*, у найшырэйшым гэтага слова значэньні. Гэта значыць, сюды трэба аднесьці ўсе каапэратывы, якія заспакойваюць патрэбы сяброў матар'яльныя (ежа, адзеньне, абутак, хатнія прылады і г. д.) і духовыя (бібліятэкі, школы, тэатр і г. д.). Да аддзелу спажывецкіх каапэратываў адносяць яшчэ каапэратывы будаўляныя, якія маюць на мэце даць сваім сябром лепшыя, таннейшыя дамы і кватэры.

Да другога аддзелу каапэратываў належаць каапэратывы *вытворчыя* (земляробскія, малачарскія, прамысловыя). Тут не адыгрывае ролі квэстыя, ці гэтыя каапэратывы абыймуць *усю* гаспадарчую вытворчасьць, ці толькі *часьць* яе. У адным выпадку гэта можа быць малачарня, у другім — прамысловы варштат або фабрыка, у трэцім — земляробскі каапэратыў, у якім сябры супольнымі сіламі куплялі-б гаспадарчыя прылады дзеля абработкі зямлі. Былі прыклады з дзейнасьці Бел. Інстытуту Г. і К, што лепшыя ягоныя гурткі куплялі за складковыя грошы гаспадарчыя прылады (напр. пружыноўкі) і па чарзе, ў меру патрэбы, карысталіся імі. Калі тыя сябры змаглі купіць пружыноўку, то пры разьвіцьці гуртка і каапэратывізму, маглі-б у будучыне купіць і іншыя большыя прылады, як жняярка, малатарня або нават і трактар!

Да трэцяга аддзелу належаць каапэратывы *крэдытовыя.* Іх часам залічаюць да каапэратываў спажывецкіх, але гэта няслушна, бо заданьнем спажывецкага каапэратыву ёсьць спажыцьцё добра, а крэдытовага—паднясьце вытворчасьці. Бяз крэдытовага каапэратыву не маглі-б разьвівацца іншыя галіны каапэрацыі і марнаваліся-б ашчаднасьці сяброў.

Мы тут вылічылі толькі галоўныя аддзелы каапэрацыі, але трэба адзначыць, што з разьвіцьцём каапэратыўнага жыцьця, лік аддзелаў каапэрацыі будзе ўзрастаць, залежна ад таго, паколькі каапэратывізм будзе пранікаць ва ўсе дзялянкі чалавечага жыцьця.

Аднэй з галоўных *мэтаў* каапэратывізму ёсьць палепшаньне быту сваіх сяброў. Але тут можа паўстаць пытаньне: калі мэтай каапэратывізму ёсьць толькі палепшаньне быту *сваіх* сяброў, то што з усім чалавецтвам? Ці каапэратывізм мае шырэйшыя і глыбейшыя мэты? Ці ён імкнецца да стварэньня нейкага новага і справядлівейшага грамадзкага ладу? Калі так, то чым ён рожніцца ад капіталізму і камунізму (сацыялізму)?

Адказ на гэтыя пытаньні, дзеля абшырнасьці тэмы, мы адкладаем да наступнага нумару нашага часапісу, а цяпер толькі сьцьвярджаем, што *як каапэратыў творыцца дзеля ўзаемнай дапамогі сяброў, так каапэратывізм дзеля заспакаеньня патрэб усяго чалавецтва.* Калі мэтай паасобных каапэратываў ёсьць арганізаваньне ўзаемнай дапамогі пэўнай колькасьці сяброў, дык мэтай каапэратывізму ёсьць палепшаньне быту ўсяго чалавецтва.

Але якімі спосабамі?

Мы добра разумеем, што зрэалізаваньне мэт каапэратывізму ня можа адбыцца ў працягу некалькіх гадоў: на гэта трэба некалькіх дзесяткаў гадоў. Трэба прадусім, каб ідэю каапэратывізму пазналі добра ўсе змагары за лепшую будучыню чалавецтва; далей трэба ўсьведамляць і ўзгадоўваць у кірунку каапэратывізму грамадзянства, асабліва моладзь; трэба рабіць стараньні перад дзяржаўнымі ўладамі ўсіх дзяржаваў аб поўнай свабодзе каапэратыўнага жыцьця; трэба ўзгадоўваць кадры чэсных каапэратыўных працаўнікоў. Гэта ёсьць агульныя спосабы да ўвядзеньня ў жыцьцё каапэратывізму, спосабы, сказалі-б, для ўсяго чалавецтва. Але каапэратывізм мае сваё значэньне і для Беларускага народу. Як ведама, наш народ ня мае сваёй *гаспадарчага* жыцьця, ня мае таксама сваіх капіталістаў, якія б гэтае жыцьцё паднялі і дзеля гэтага нашаму народу, як ніводнаму, патрэбна злучэньне сіл з мэтай стварэньня гэтага жыцьця на аснове каапэратывізму. На гэтакай-жа аснове трэба тварыць і *культурнае* жыцьцё і нават *палітычнае*... бо іншага выхаду з сучасным палажэньні мы ня маем!

„Беларускі Фронт“ паўстаў на аснове каапэратывізму, адкідаючы ад сябе ўсякую чужую матар'яльную помач. Мы абапёрліся выключна на свае беларускія сілы і даём пачатак *беларускаму* каапэратывізму ня толькі словам, але і чынам. Тыя, што далучаюцца да нас, становяцца на гэтакі самы грунт.

## Польская палітыка адносна Літоуцаў.

У прошлым нумары „Б. Фр.“ мы разважалі літоўскую справу з нашага, беларускага, пункту гледжаньня, а цяпер хацелі-б зазнаёміць нашых чытачоў, як на яе глядзяць польскія кругі. Літоўская справа мае для Беларусаў вялікае значэньне (так як і жыдоўская, якой пасьвячаем шмат месца на іншым месцы гэтага нумару) і ўсебаковае зазнаямленьне з ёю ўважаем за рэч карысную для кожнага Беларуса. Але аб польска-літоўскіх адносінах мы аддаём голас Палякам і паглядзім, што аб гэтым піша эндэцкі „Warsz. Dziennik Narodowy“, галоўны орган эндэцкай палітыкі.

У нумарох з дн. 27, 28 і 29. V. г. г. гэтая газэта абшырна разглядае літоўскую справу, а мімаходам і беларускую ў Польшчы. Прадусім газэта сьцьвярджае што „жарол“ літоўскай небясьпекі“ трэба шукаць у памылках польскай палітыкі, якіх было зроблена ўжо многа і якіх робіцца далей бяз ліку, а такжа ў тым,

што Літва можа быць прыладай (narzędziem) у руках сільнейшых партнэраў, якія з малой дзяржавы могуць зрабіць вельмі грозны выпадовы тэрэн на Польшч". Далей газэта затрымоўваецца над апошнімі падзеямі і распараджэньнямі віл. уладаў адносна Літоўцаў. „Пачалося дн 20. XII. 35 г., калі віленскі ваявода заклікаў да сябе пару галоўных літ. дзеячоў, якім заявіў, што „ня будзе далей талераваць прасьледу польскага насельніцтва ў Літве". Ніякіх бліжэйшых высьненьняў п. ваявода ня даў і ня выслухаў адказу, які неўбаве зьявіўся ў літ. часапісах, але быў сканфіскаваны. Суд аднак канфіскату ўхіліў і абвінавачаных апраўдаў, з гэтага вывад, што адказ быў спакойны і рачовы. Потым пачаліся ведамыя распараджэньні аб ліквідацыі літоўскіх грамадзкіх і культурна-асьветных арганізацыяў. Калі верыць літоўскім інфармацыям, на працягу няпоўных паўтара гадоў зьліквідавана агулам 462 аддзелы таварыстваў „Рытас" і „Сьв. Казімера", зачынена 143 чытальні, 170 прыватных народных школ, прыв. гімназію ў Сьвянцянах і вуч. сэмінарыю ў Вільні. Асталося быццам 24 чытальні, 19 народн. школ і 1 гімназія ў Вільні. Потым наступіла прыпыненьне дзейнасьці ў прыгранічнай паласе літ. арганізацыяў, а ўрэшце 4. XII. 36 г. быў выданы загад аб спыненьні дзейнасьці Літ. Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, які быў рэпрэзэнтацыяй ня толькі ўсіх, існуючых у Польшчы, літоўскіх палітычна-грамадзкіх арганізацыяў, але якбы і літоўскага ўраду ў Коўне. Аб гэтай неафіцыяльнай ролі Камітэту ведалі ў Вільні здаўных, бадай ад хвіліны, ягонага заснаваньня, г. зн. ад 1919 г. Дык што-ж зьмянілася ў літ-польскіх адносінах, каб па гадох талераваньня існуючых адносін раптам перайсьці да радыкальнай ліквідацыі літоўскіх арганізацыяў—пытае газэта.

Адказваючы на гэтае пытаньне, газэта сьцьвярджае, што „ня можна ўсталіць ніякіх канкрэтных праяваў, якія-б сьведчылі аб тым, што ў адносінах Літвы да Польшчы наступілі пры канцы 1935 г. якіясь зьмены". Быў тойсамы, што і даўней, стан неафіцыяльнага міру. Рух у пагранічнай паласе быў з абодвых бакоў урэгуляваны, ня можна таксама дагледзець ніякіх новых праяваў прасьледу польшчыны ў Літве, а да старых польская палітыка ўжо прывыкла — словам нічога такога ня сталася, што-б магло высьніць „зьмену курсу" адносна Літоўцаў у Польшчы. Можна было-б падумаць, што гэтая „зьмена курсу" ідзе да аканчальнай разьвязкі літоўскай справы ў Польшчы, але і гэта не, — сьцьвярджае газэта, бо ўсё асталося, так як было і ізноў стаім перад праблемай, разьвязка якой выдаецца бадай немагчымай. Усе апошнія распараджэньні газэта ўважае калі ўжо не за беспляновыя, то прынамсі за спозьненыя, а адносна спасабу рэалізацыі мае да іх паважныя засьцярогі.

Далей газэта робіць параўнаньне сучасных адносін польскай палітыкі да літоўскай справы з даўнейшымі адносінамі да беларускай справы (Грамады) і даходзіць да вываду, што як тут, так і там, спасьцерагаецца бесплянсвасьць, якая нарабіла шмат бяды. Аднак у сваіх спасьцярогах адносна Грамады і бел. справы аўтар робіць шмат памылак: відаць, што ён бел. справы добра не прастудыяваў. Але крытыка ягоных паглядаў выходзіць па-за рамкі нашай стацьці і мы варочаемся да справы літоўскай.

Аўтар у гэтай справе цьвярдзіць, што распараджэньні процію літ. арганізацыяў сталіся жаралом няскончонага ліку дробных працэсаў у старастаўскіх і гарадзкіх судох. Няма бадай тыдня, каб не адбываліся 2-3 расправы за нелегальнае навучаньне, за супольнае слуханьне аўдыцыяў ковенскага радія, за пушчэньне ў рух чытальняў без дазволу старастства, за трыманьне літаратуры, ня маючай у Польшчы права дэбіту, за вывешваньне партрэтаў і г. д. І тут даходзім да грунту зла — кажа газэта. Бо мусім сьцьвердзіць, што ў аграмаднай большасьці (80-90 проц.) суды выносяць апраўдываючыя прысуды, а гэта выклікае проціўпольскія настроі, якія ўзмацоўваюцца яшчэ санітарнымі і іншымі пратаколамі.

Уканцы газэта прыходзіць да вываду, што апошнія распараджэньні адносна Літоўцаў, а прадусім спосаб іх выконваньня больш прыносяць шкоды, чым карысьці. Рэпрэсіі ня спыняць узросту літоўскага руху, а калі ідзе аб вонкавы эфэкт, дык таксама не асягнулі таго, да чаго была скіравана заява віленскага ваяводы г. зн. спыненьня прасьледу Палякоў у Літве. Апошнія весткі з таго боку сьведчаць зусім аб чым іншым. Каб дайсьці да пэўных рэзультатаў — кажа аўтар — трэба мець ясны пагляд на цэласьць справы і ведаць, да чаго ідзецца і што жадаецца здабыць. Інакш трэба лічыцца з праіграньнем. Польшч сапраўды ўжо мае даволі экспэрымэнтаў і экпэрымэнтатараў — канчае газэта.

Падалі мы гэту характэрную стацьцю „Warsz. Dz. Nar." без ніякіх паясьненьняў, бо ўважаем, што яны лішнія. Стацьця гэна даволі ярка прадстаўляе з аднаго боку літоўскую справу ў Польшчы, а з другога боку—польскую палітыку адносна нац. меншасьцяў агулам і літоўскай у асобнасьці.

*А. В.*

## *ЗАЦЕМКІ з ЖЫЦЬЦЯ.*

*Абісынія і п. Мацкевіч.* У Жэнэве на Надзвыч. Сэсіі Лігі Народаў міністар Бэк выступіў з прапазыцыяй выкасаваньня з ліку сяброў Лігі прадстаўнікоў Абісыніі, ўтраціўшай сваю незалежнасьць. На гэту прапазыцыю абурыўся рэд. „Słowa" Мацкевіч і шырока распісаўся (28. V. г. г.) ў сваім органе аб несправядлівасьці такога кроку з боку ўсіх дзяржаў, асабліва-ж аб нетактоўнасьці з боку Польшчы. „Польшч сама — піша М.—праз 100 гадоў прасіла помачы проціў захопнікаў, а цяпер выступае і ініцыятывай прызнаньня захопніцтва"! Прыгэтым п. М. зварочвае ўвагу на небясьпеку пашырэньня камунізму ў Афрыцы з прычыны забраньня Абісыніі Італіяй.

На наш пагляд, усё гэта добра, толькі хацелі-б зьвярнуць увагу п. Мацкевіча на яго неконсэквэнцыю. Бароніць ён абісынскіх мурынаў і разам з гэтым стаіць на імпэрыялістычным становішчы адносна ўсіх іншых нацыянальнасьцяў, асабліва на ўсход ад Польшчы, не гварантуючы ім незалежнасьці. У самой-жа Польшчы жадае бязьлітаснай асыміляцыі Беларусаў. Ці ня ведае п. Мацкевіч, што ад уціску камунізуюцца людзі ня толькі ў далёкай Афрыцы, але і бліжэйшай Эўропе? Заганяючы людзей у абоймы камуністычнага імпэрыялізму, гэтым самым сьцьвярджаецца вышшасьць яго над імпэрыялізмам буржуазным. Урэшце п. М. хоча быць хрысьціянскім дзеячом, ідучым да большай міжчалавечай і міжнароднай справядлівасьці! І як гэта ўсе пагадзіць?

*Новая студэнцкая арганізацыя.* Дня 22. V. г. г. адбылося арг. сабраньне новай студ. арганізацыі „Związku studentów Ziem Połnocno-Wschodnich". Было быццам каля 70 чалавек, на старшыню выбраны В. Бортновскі, а да ўраду між іншымі М. Белятко, які вызначаны на куратара маемасці зачыненых БІГ і К і ТБШ. Ідэолёгію новай арганізацыі В. Бортновскі падае на бачынах органу маладых абшарнікаў „Trakt Batorego" (27. V. г.г.), які выходзіць пры газэце „Słowo". „Мусім знайсьці—кажа В. Б.—шырокую плятформу сужыцьця, нарысаваць рамы, ў якіх зьмясьцімся паміма штучна павялічаных нацыянальных, рэлігійных ці маемасных барыкадаў. Паходзім пераважна з гэтых земляў і тут будзем працаваць. Да гэтай працы мусім падгатовіцца... Залажылі мы таварыства, мэтай якога ёсьць згуртаваньне ўсей моладзі крэсовых земляў. Рожніцы нацыянальныя, рэлігійныя, маемасныя, сьветапагляду няхай ня існуюць у таварыстве... Будзем памагаць у здабываньні навукі праз сарганізаваньне сьвятліцы, пазычальні кніжак, даваньне пазыкаў і г.д."

З усяго відаць, што новая арганізацыя ёсьць творам віл. санацыі. Найболей кідаецца ў вочы заява, што ў арг. не павінна быць рожніц нацыянальных, рэлігійных і нават рожніц сьветапагляду! Насовываецца пытаньне, якія-ж гэта людзі, што нават ня маюць свайго сьветапагляду! Ці толькі на тое, каб браць пазыкі?

*Віленскае радіо.* Дня 25. V. г.г. адбылася ў Вільні прэсавая канфэрэнцыя, на якую прыбыў з Варшавы галоўны дырэктар Польскага Радія п. Старжынскі. На гэнай канфэрэнцыі была паднята рэд. Лечыцкім (паляком) справа аўдыцыяў у беларускай мове, каб змагацца з чыжой прапагандай. У адказ на гэтае п. Старжынскі заявіў, што справа мовы залежыць выключна ад мясцовага ваяводзтва і нават рэкурс у Мін. Унутр.

# Жыдоўская справа і Беларусы.

Проціўжыдоўскія выступленьні, якія ў апошнім часе адбываюцца з штораз большай сілай у краі і заграніцай, прымушаюць нас узяць голас у гэтай справе. Бяром голас, каб усебакова асьветліць жыдоўскую справу агулам бяручы, у сусьветным маштабе, прадстаўляючы палажэньне жыдоўскага народу і ягоныя палітычныя імкненьні, а ўканцы і адносіны беларусаў да гэтае справы.

На пачатку трэба прызнаць, што жыдоўскі народ, дзякуючы сваей выробленнасьці, інтэлігенцыі і матар'яльным сродкам, адыгрываў і адыгрывае вялікую ролю ў гісторыі чалавецтва. Бяручы з пункту фізыёлёгічнага — гэта раса моцная, суцэльная, і маючая ўжо блізу 4 тысячы гадоў. Даволі параўнаць жыда і беларуса, каб праканацца аб вялікай рожніцы паміж гэтымі двама тыпамі. Апіраючыся на рэлігіі і адменнасьці расы, жыды патрапілі захаваць у рассеяньні па ўсім сьвеце свае нацыянальныя асаблівасьці і духовую лучнасьць праз тысячы гадоў!

Ня гледзячы на ўсё гэта, сучаснае палажэньне жыд. народу даволі сумнае. Расьцярушаны па ўсім сьвеце, ён мусіць у некаторых краёх перанасіць жорсткі прасьлед. Усіх жыдоў лічаць да 15 мільёнаў, з гэтых болей 3 мільёнаў жыве ў Польшчы, столькі-ж у СССР, у Румыніі — да 1 мільёну, у Нямеччыне — 500 тысяч, у Паўночнай Амэрыцы — 500 тысяч і г.д. У этнаграфічнай Беларусі яны становяць значны процант, асабліва па гарадох і мястэчках.

Кожная дзяржава пасвойму стараецца вырашыць у сябе жыд. справу. Найболей радыкальна яна вырашана ў СССР і Нямеччыне. Англія вядзе адносна жыдоў сваю арыгінальную палітыку. У Лёндыне месьцяцца галоўныя цэнтралі жыд. сусьветнага руху.

У СССР камуністычная ўлада вырашыла жыдоўскую праблему такім парадкам, што дала жыдам поўныя грамадзкія і палітычныя правы. Бяручы пад увагу даўнейшыя прасьледы жыдоў царскім урадам, а так-жа заслугі жыдоў для камунізму, камуністы акружылі жыдоўскі народ выдатнай апекай і далі ім поўную магчымасьць нацыянальнага, культурнага, а часткова і гаспадарчага разьвіцьця. Дапусьцілі іх да ўсіх, нават найвышэйшых урадаў (на Беларусі і Украіне на ўрадавых пасадах вялікі процант жыдоў), стварылі спэцыяльна жыдоўскія калхозы, выдзелілі цэлыя зямельныя абшары (Біробіджан і Крым) для жыдоўскай калянізацыі — словам далі ім усе магчымасьці жыцьця. Аднак, паміма ўсяго гэтага, жыдоўскія дзеячы наракаюць, што ў СССР жыд. насельніцтва вымірае. І так, праф. Голдэльман у кнізе: „Ці камунізм — гэта разьвязка жыдоўскага пытаньня"? піша, што жыд. народ у СССР гіне і нацыянальна і рэлігійна і даходзіць да вываду, што ўканцы мусіць там згінуць! Нават у Біробіджане і Крыму ня ўдасца захаваць жыдоў, бо выключна матар'ялістычнымі сіламі, на якія апіраюцца камуністы, ня можна сцэмэнтаваць і захаваць народнага арганізму, а разьвіваць духовыя сілы (рэлігіі і народнай душы) там не дазволена. Праф. Голдэльман кажа, што па якіх двух-трох пакаленьнях жыдоў у СССР ня стане...

Яшчэ горай прадстаўляецца жыд. справа ў фаш. дзяржавах. У Італіі жыдоў было і ёсьць мала, затое ў Нямеччыне іх было болей і яны займалі добрыя становішчы ў адвакатуры, мэдыцыне і публіцыстыцы. Але ў апошніх гадох, пад уплывам гітлерызму (расізму) і імкненьня да стварэньня чыста нацыянальнай дзяржавы, ад жыдоў адабраны бадай усе палітычныя правы і яны прымушаюцца да эміграцыі. Пад жорсткім прасьледам жыд. нацыя ў Нямеччыне гіне,— з другога боку трэба прызнаць, што там выробляецца і вялікая сьведамасьць жыд. нацыі, яе салідарнасьць, але гэтыя здабыткі зьвязаны з цярпеньнем і стратамі. Жыды былі абвесьціўшы нават эканамічны байкот Нямеччыны, але бяз большага рэзультату. Нямецкі народ у гэтай схватцы двух народаў аказаўся сільнейшым.

У дэмакратычных дзяржавах: Англіі, Францыі і іншых, жыдам жывецца нязгорш. Англія ўзяла нават жыдоў пад асаблівую апеку і ў 1917 годзе праз вусны мін. Бальфура абвесьціла ведамую на ўвесь сьвет дэкляpацыю аб утварэньні жыдоўскай дзяржавы ў Палестыне (Эрэц Ізраэль). Але на перашкодзе да гэтага сталі арабы, якіх у Палестыне большасьць і якія рашуча выступілі проціў жыд. калянізацыі. Добра яшчэ помнім арабскае паўстаньне ў 1936 г. проціў жыдоў і англічан, крывава здушанае англ. войскам! Пасьля гэтага была ў Палестыне англ. высокая камісія, якая дайшла да вываду, што Палестыну трэба падзяліць на два кантоны: жыдоўскі і арабскі. Першы быў-бы ў зах. часьці Палестыны, а другі—у усходняй. Гарады: Ерусалім. Бэтлеем, Назарэт мелі-б стацца вольнымі местамі. Проціў гэтага праекту выступілі як арабы, так і жыды; гэтыя апошнія, здаецца, толькі дзеля прычын тактычных, а ў сутнасьці яны гэтага падзелу хочуць, як пераходнага этапу да заўладаньня ўсей Палестынай. Справа ў тым, што гэты праект хоць і не заспакойвае цалком жыд. імкненьняў, то ўсёжтакі робіць *пачатак* жыд. дзяржаўнасьці ў Палестыне і ствapae грунт для далейшага пашырэньня гэтай дзяржавы на ўсю Палестыну. Дзеля гэтага трэба дапусьціць, што хоць жыды і крычаць аб крыўдзе, якую яны бачаць у падзеле Палестыны, яны на гэты праект у канцы згодзяцца, а некаторыя проста ўважаюць жыдоў за ініцыятараў гэтага праэкту!

На грунце стварэньня ў Палестыне жыдоўскай нац. дзяржавы стаяць усе жыд. нацыянальныя партыі, і не шкадуюць на гэта ані

Сьв. † п.

## Адвард Стальчынскі

**Актыўны дзяяч на ніве беларускага адраджэньня, адзін з закладчыкаў гуртка БІГІК у Жодзішках, шматгадовы сакратар і бібліятэкар яго, здольны артыст беларускай сцэны, апошнім часам бугальтар касы Стэфчыка, добры, справядлівы, заўсёды жыцьцярадасны, сэрца якога было чулае на людзкую нядолю — трагічна памёр падчас нешчасьлівага выпадку пры працы 19 траўня г. г.**

Б. Сябры Жодзішнага Гуртка БІГІК, прыяцелі і знаёмыя.

Спраў тут нічога не памог. На абшары віленскага ваяводзтва дазволена праз радіо гаварыць і пяяць выключна ў польскай мове. („Słowo" 27. V. 37).

*Падзеі ў Берасьці.* Ведамыя проціўжыдоўскія выступленьні ў Берасьці, 13. V. г. г. перавысілі ўсе дагэтуляшнія. Пачалося з таго, што жыд-разьнік прабіў нажом на сьмерць паліцыянта, а кончылася поўным разгромам жыдоўскага гандлю ў Берасьці. Даволі сказаць, што ў Берасьці не асталося ніводнай жыдоўскай крамы, ніводнай пякарні — ўсё зьнішчана. Насельніцтва выкідала на вуліцы тавар і жыдоўскую маемасьць, рвала вэксалі, але жыдоў не забівала. Толькі былі раненыя, з якіх памёрла ў бальніцы адна ці дзьве асобы. Жыды ў сэнацкай інтэрпэляцыі вінавацяць паліцыю за бязьдзейнасьць, якая быццам ад гадз. 9 раніцы да 1 гадз. ўначы прыглядалася бязчынна выпадам і грабествам натоўпу. Як там было, згадаць трудна, толькі фактам ёсьць спыненьне ў дзейнасьці берасьцейскага старасты і перанясеньне кіраўніка бясьпечнасьці.

Польскія газэты шукаюць прычын гэтакай злосьці насельніцтва проціў жыдоў і даходзяць да вываду, што глыбейшая прычына зусім не ляжыць у забойстве паліцыянта. Сапраўдных прычын трэба шукаць у апанаваньні жыдамі гандлю (ў Берасьці 90 проц. гандлю было ў жыд. руках), а такжа ў цяперашніх проціўжыдоўскіх настроях, якія запанавалі ў Эўропе. Падзеі ў Берасьці ёсьць рэакцыяй проціў эканамічнай супрэмацыі (перавагі) жыдоў.

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### З жыцьця вёскі.

З правінцыі атрымалі мы некалькі спасьцярог з жыцьця нашай вёскі, якімі хочам падзяліцца з нашымі чытачамі.

Прадусім *беларускія прадстаўленьні.* Справа гэта ў апошнім часе выглядае вельмі сумна. Старасты агулам бяручы на чыста беларускія прадстаўленьні дазволу не даюць, вымагаючы прадстаўленьняў утраквістычных г. зн. польска-беларускіх. Відаць, што гэта ўжо сыстэма. Мясцамі моладзь ладзіць прадстаўленьні польскія, але яны праходзяць з дэфіцытам, бо глядзельнікаў бывае на іх вельмі мала, а дзе дадаецца нешта беларускае, дык глядзельнікаў многа і яны да часткі беларускай маюць вялікае заінтарасаваньне.

Цікава і павучальна яшчэ тое, што вёска наша ў вялізнай большасьці адчувае сымпатыю да *„людовага" фронту.* Людзі, якія хінуцца да гэтага фронту, мала цікавяцца беларускімі газэтамі і кніжкамі, а выпісваюць і чытаюць газэты польскія. З гэтага выходзіць вялікая крыўда для бел. народу, бо ён паланізуецца і праз „людовы" фронт. Наша вёска цяпер засыпана польскімі газэтамі клерыкальна-эндэцкімі і левымі. Клерыкальна-эндэцкім ніхто ня верыць, асабліва калі яны нешта пішуць аб Саветах, а левым вераць і чытаюць іх. Слова *беларус* у частцы польскага грамадзянства азначае нешта праступнае, а атрымліваньне ці чытаньне бел. газэт і кніжак уважаецца амаль не за дзяржаўную здраду. Польскія нацыяналісты стараюцца ўсімі сіламі закладаць *польскія арганізацыі* і мясцамі ім гэта ўдаецца. Толькі характэрная рэч, што ў гэтыя арганізацыі моладзь ідзе ня дзеля ідэі, а дзеля сабе ведамых мэт, у найлепшым выпадку дзеля таварыскага жыцьця (вечарыны, гульні і г. п.). У гэтыя арганізацыі ідзе і „радыкальная" моладзь. Наагул спасьцерагаецца ў народзе нейкае бурленьне, нездаваленьне, чаканьне... Трэба прызнаць, што да ўсяго гэтага прычыняюцца такжа тыя, ад кага гэтага чакаць ня трэба было-б.

Наш народ, хоць жыве ў бядзе, аднак мала рупіцца аб палепшаньні свайго гаспадарчага жыцьця, але трэба і гэта адзначыць перад гісторыяй, што там, дзе парупіцца, спатыкае вялікія перашкоды. Усе адчуваюць бяду і недахопы, але ў большасьці чакаюць, што нехта мусіць прыйсьці і палепшыць іхную долю, а гэты „нехта" мае прыйсьці толькі з усходу... Віна ў гэтым ня толькі нашага народу, але і тых абставін, у якіх ён апынуўся. Народ наш вельмі ня любіць недахаваньня законаў і калі бачыць, што закон на нешта пазволяе, а яму не даюць або не паступаюць паводле закону, зражаецца да тых асобаў.

Культурна-маральны стан нашай вёскі падае штораз болей, моладзь пры такіх варунках проста дзічэе; самогон, нож або сьвінцоўка—гэта найчасьцейшыя спосабы выказваньня сваей энэргіі, адвагі і помсты. Прыгэтым палітычныя і сацыяльныя настроі вельмі радыкальныя. Пры недахваце зямлі хутарызацыя ці комасацыя мала памагае.

Гэтакі, невясёлы, абраз нашай вёскі адбіваецца ва ўсіх расказах і пісьмах.

### Абнова Бел. Нац. Камітэту.

Як падае „Шлях Моладзі", ў месяцы траўні адбылося абнаўленьне Бел. Нац. Камітэту ў Вільні, які на гадавым сходзе дня 21. V. выбраў новы прэзыдыюм Камітэту ў такім складзе: інж. А. Клімовіч — старшыня, адв. Ф. Стэцкевіч і др. Ст. Грынкевіч — віцэ-старшыні, М. Манцэвіч — скарбнік і рэд. Я. Пазьняк—сакратар. Акрамя таго сход прыняў рэзалюцыі аб патрэбах Беларускага народу і даручыў прэзыдыюму парупіцца аб саргнізаваньні камісіяў: асьветнай, рэлігійнай і дапамаговай бел. студэнцтву.

Характэрна, што сёлетнія рэзалюцыі БНК ня былі апублікаваны. Чаму?

### Водгукі рэвізіяў.

У часе рэвізіяў 28. XI. 36 г. было забрана паліцыяй шмат розных папераў і дакумантаў у бел. арганізацыяў і паасобных беларускіх дзеячоў. У траўні месяцы некаторым дзеячом паперы былі зьвернуты ўсе або часткова, за выняткам толькі кс. А. Станкевіча, якому не зьвярнулі нічога. Як падае „Самапомач", на асабістае запытаньне кс. А. С. аб звароце ягоных папераў і дакумантаў, яму было заяўлена ў сьледчай паліцыі, што на зварот чакаць ня трэба... Дзеля гэтага „Самапомач" пытаецца, што з гэтага будзе?

### Рэфэрат аб М. Багдановічу.

Дня 20. V. г. г., з прычыны 20-тых угодкаў сьмерці бел. паэтамастака Максіма Багдановіча Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ ладзіла ў залі Віл. Унівэрсытэту акадэмію. Рэфэрат аб творчасьці паэта прачытаў А. Луцкевіч, дэклямаваў творы паэта Ф. Аляхновіч. Акадэмія прайшла паважна і выклікала зацікаўленьне прысутных творчасьцяй паэтамастака.

### Беларускі канцэрт у Вільні.

16 траўня с. г. ў залі Унівэрсытэту С. Б. у Вільні адбыўся беларускі канцэрт, зладжаны Бел. Студ. Саюзам. Праграма канцэрту складалася з выступленьняў беларускага хору пад кіраўніцтвам Р. Шырмы і ведамага беларускага тэнара М. Забэйды-Суміцкага. Хор Р. Шырмы выканаў шмат беларускіх народных пэсьняў, а М. Забэйда прапяяў некалькі арый і рамансаў па італьянску, расейску і польску а закончыў беларускімі народнымі песьнямі. Заля была поўная, многа было вучнёўскае моладзі.

Выступленьне хору Р. Шырмы яшчэ раз выявіла добрае кіраўніцтва і бязупынную працу над хорам гр. Р. Шырмы. Вельмі ўдатным трэба лічыць уладжаньне праграмы хору і выбар песьняў, што запраўды паказала ня толькі добрае выкананьне, але разнаякасьць матываў і багацьце беларускай народнай песьні. Дабор песьняў на гэткіх канцэртах, калі прыхо-

капіталу, ані трудоў. Нашто жыдам свая дзяржава? На гэта ёсьць многа прычын: 1) паварот да свайго краю і да сваей гістарычнай мінуўшчыны; 2) сканцэнтраваньне ўсіх жыд. сіл у сваей дзяржаве; 3) жыдоўская рэпрэзэнтацыя (пасольствы) па ўсіх сталіцах сьвету і абарона жыд. інтарэсаў ва ўсіх дзяржавах. Пры наяўнасьці сваей дзяржавы жыды маглі-б уваходзіць і ў Лігу Народаў і мець яшчэ большы ўплыў на міжнародную палітыку. Англія, будуючы ў Палестыне жыдоўскую дзяржаву, мае таксама вялікія карысьці: яна ў жыдах будзе мець пэўных і багатых саюзьнікаў ва ўсходняй частцы Міжземнага мора, загрожанага цяпер Італіяй. Англія спадзяецца, што ў будучыне жыд. войска разам з англійскім будзе бараніць Суэскага каналу перад Італіяй, арабамі, а можа і яшчэ некім..

Да стварэньня ў Палестыне жыдоўскай дзяржавы ідуць толькі жыд. нацыяналісты, якія ад гары Сыёну ў Ерусаліме завуцца сыёністамі. Іншыя жыд. партыі адносяцца да гэтай імпрэзы роўнадушна, або нават і крытычна. Ды гэтых належаць і жыд. камуністы, якія ў жыд. народзе адыгрываюць вялікую ролю. Часам аж дзіўна і для некаторых незразумела, чаму гэта жыды лучацца з камунізмам і даюць гэтаму кірунку шмат інтэлігентнага людзкога матар'ялу? Але трэба ведаць, што камунізм і жыдоўская пілітыка маюць у сваіх імкненьнях некаторыя пункты стычныя, асабліва ў будаваньні аднэй унівэрсальнай дзяржавы. Некаторыя жыд. палітыкі слушна адзначаюць, што Палестына ўсіх жыдоў ня зьмесьціць (найбольш да 3 мільёнаў), што аграмадная большасьць іх астанецца раскіданай па ўсім сьвеце — значыць, стварэньне жыд. дзяржавы ў Палестыне, гэта яшчэ ня выхад, які даў-бы заспакаеньне ўсіх жаданьняў жыд. народу і трэба пашукаць іншага. А гэтым выхадам мае быць стварэньне адзінай сусьветнай дзяржавы. За гэтакую вялікую работу ўзяліся камуністы — і дзеля гэтага сымпатыя часткі жыд. народу на старане камуністычнай ідэолёгіі. На тое, што пры камунізьме пацярпяць багацейшыя жыды, не зварочваецца ўвагі, бо карысьці пры паўстаньні ўнівэрсальнай дзяржавы былі-б большыя для жыд. народу, чым страты: жыды злучыліся-б у аднэй дзяржаве і як інтэлігентны і рухавы элемэнт маглі-б там адыгрываць вялікую ролю. Значыць, паводле некаторых жыдоўскіх палітыкаў, на стварэньні такой унівэрсальнай кам. дзяржавы страцілі-б толькі адзінкі, а цэлы жыдоўскі народ выйграў-бы.

Сыёністычны і камуністычны кірунак адыгрываюць найбольшую ролю ў жыдоўскім народзе. Усе іншыя (ортодоксы, дэмакраты, сацыялісты) ня маюць такога значэньня. Жыдоўская маса агулам бяручы дзяржыцца правіла: дзе добра — там і бацькаўшчына і ня думае скранацца з наседжанага месца. Некалькі месяцаў таму Францыя запрапанавала жыдам эміграцыю на вялізарную выспу Мадагаскар, але жыды з абурэньнем гэту прапазыцыю адкінулі. Толькі адна жыдоўская група сыяністаў-рэвізыяністаў прызнае, што жыдом трэба будзе эміграваць з Эўропы, але і гэта група дапускае эміграцыю толькі ў Палестыну. Затое эўрапэйскія фашысты цьвярдзяць, што за сто гадоў жыдоў у Эўропе ня будзе...

Гэтак прадстаўляецца жыдоўская справа ў сусьветным маштабе. А цяпер паглядзім, як яна прадстаўляецца ў маштабе беларускім.

Жыды пачалі сяліцца ў Беларусі ад часоў Вітаўта (ад пачатку 15 ст.). Прыйшлі яны да нас праз Польшч з Нямеччыны і прынясьлі в сабою сапсутую нямецкую мову, да якой далучыліся словы і сказы з іншых моваў і такім парадкам стварыўся г. зв. жаргон, або новажыдоўская мова. Жыды насяляюць Беларусь у вялікай колькасьці (каля 15 проц.) і становяць па некаторых гарадах і мястэчках большасьць насельніцтва. Займаюцца найболей гандлем і рамяслом. Адносіны паміж беларусамі і жыдамі не найгоршыя. Праўда, беларус жыда ня любіць, але актыўна проціў яго не выступае і нават ахватней купляе ў жыда, чым у хрысьціяніна. Часта здараюцца і такія выпадкі, што беларус ідзе да жыда ў труднейшай жыцьцёвай справе і просіць у яго парады. Гэтакія дзіўныя адносіны да жыдоў тлумачацца тым, што загнаны беларускі селянін ня мае да каго зьвярнуцца за парадай, апрача жыда! Хоць ён жыда і ненавідзіць, то ўсёжтакі жыд бліжэйшы для яго за пана, з ўраднаўца, за войта, а нават за ксяндза і пэпа! Мусіць няма на сьвеце другога народу, які-б знаходзіўся у падобным палажэньні! Няшчасны народ! Але гэтыя зьявішчы належаць ужо да парадоксаў ненармальнага бел. жыцьця!

Жыды ў сваей масе не інтэрасуюцца беларускім адраджэньнем і не разумеюць яго. Мясцамі яны зьяўляюцца русыфікатарскім або полёнізатарскім элемэнтам. Гаворучы парасейску або папольску, яны сьведама ці нясьведама пашыраюць іншую культуру. Толькі адзінкі з іх разумеюць бел. нацыянальныя імкненьні і ім спагадаюць. Можа жыды інстыктоўна вычуваюць, што з узростам беларускага ўсьведамленьня пачнецца праца над будаўніцтвам свайго бел. гаспадарчага жыцьця і бел. гандлю— і тады магло-б дайсьці да рывалізацыі і спрэчак на гэтым грунце.

Практычна падыходзячы да жыдоўскай справы, беларусы павінны дзяржацца гэтакіх правіл: 1) чынна проціў жыдоў не выступаць і ня браць удзелу ў выступленьнях, арганізаваных кім іншым; 2) будаваць сваё гаспадарчае жыцьцё і ў выпадку эміграцыі жыдоў з краю, займаць іх мясцы; 3) спагадаць утварэньню жыд. нацыянальнай дзяржавы ў Палестыне ці ў іншым краі і будзіць у жыдоў зразуменьне і спагаднасьць такжа да бел. нацыянальных імкненьняў.

Пры гэтакіх адносінах можа ўсьцеражомся ад гвалтоўных выступленьняў і непатрэбнага змаганьня.

*Б. Г.*

дзе шмат прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, паводле нас, павінен быць разнаякі, бо аднастайныя песьні, хоць і памастацку выкананыя, маглі-б выклікаць прakананьне — аб беднасьці нашай песьні, чаго якраз няма. Хор Р. Шырмы пакінуў па сабе надта прыемнае ўражаньне.

Паводжаньне канцэрту трэба аднак прыпісаць у вялікай ступені М. Забэйдзе-Суміцкаму. Дасканалы гэты пяюн, аб якім многа і прыхільна пісала прэса многіх народаў, не патрабуе пахвалаў.

Амаль кожны нумар праграмы артыст прымушаны быў паўтарыць. Артыст ня толькі пяяў,—ён і перажываў выконваныя творы. А з ім перажывала і заля. Асабліва гэта спасьцерагалася, калі артыст перайшоў да беларускіх народных песьняў. Тут ужо ўсю праграму ён павінен быў паўтарыць і нават споўніць шмат непрадугледжаных нумароў. Гучныя воплескі і кветкі сыпаліся без канца. Акомпаньяваў Забэйдзе ведама ў Вільні і палажыўшы ня мала заслуг у працы над бел. песьняй кампазытар К. Галкоўскі, такжа горача вітаны публікай.

Канцэрт поўнасьцю ўдаўся і арганізатарам яго належыцца падзяка. Даўно ўжо Беларусы не перажывалі падобных хвілін, як на гэтым канцэрце, ўражаньні з якога надоўга пазастануцца ў памяці таго, хто на ім быў.

У канцы адна заўвага, якая датычыць беларускае публікі. У пачатку траўня сёлета ў Вільню прыяжджаў і даў канцэрт ведамы расейскі пяюн — бас Шаляпін. У гутарцы з прадстаўнікамі рас. прэсы ён зацеміў, што не зважаючы на ўсе посьпехі, ён на эўрапэйскай сцэне чуецца адзінокім. Адзіноцтва гэта артыст аб'ясьняў тым, што на эўрапэйскай сцэне між ім і публікай рэдка была духовая лучнасьць, а тымчасам гэтую лучнасьць вялікі артыст добра адчуваў нават у расейскіх паволжскіх гарадох. Таму і цягне яго туды. Нястача-ж духовай лучнасьці, як казаў Шаляпін, паходзе стуль, што эўрапэйская публіка адносіцца да сцэны, як да прыемнай разрыўкі, тады як публіка расейская ўважала сцэну за арганічную патрэбу свайго духовага жыцьця.

Ось-жа, здаецца нам, і гэта з прыемнасьцю адзначаем—што беларуская публіка адносіцца да сцэны вельмі паважна. Між ёй і артыстам няма халоднае сьцяны, і адразу вытвараецца духовая вязь. Публіка пільна сочыць за артыстам, за найдэлікатнейшымі праявамі яго душы, добра ўсё ўспрыймае і перажывае. Адсюль бярэ свой пачатак той энтузыязм, які мы бачылі на канцэрце 16 траўня с. г.

### „Снапок".

У траўні сёлета пачаў выходзіць месячны беларускі часапіс „Снапок", прызначаны для праваслаўных дзяцей. Вышла ўжо два нумары. Часапіс выдаецца Праваслаўнай Мэтраполіяй у Польшчы пры расейскім царкоўным тыднёвіку „Слово", але можна «Снапок» выпісваць і аддзельна (Warszawa ul. Paryska Nr. 27). «Снапок» рэдагуецца добра гр. С. Паўловічам, аўтарам бел. лемантароў. Толькі ў 2-ім нумары на 1 старонцы мы заўважылі ў двох мясцох „цьвёрды знак", які ўжо аджыў свой век і ў беларускай мове не ўжываецца. Але гэта мусіць дзеля недагляду. Наагул «Снапок» робіць сымпатычнае і салідное ўражаньне.

## З жыцьця БССР.

### Звальненьне Галадзеда.

Афіцыяльна паведамляюць з Масквы, што звольнены старшыня рады народных камісараў БССР Галадзед. Аб прычынах звальненьня Галадзеда, якога яшчэ нядаўна маскоўская прэса называла „жалезным бальшавіком", нічога няведама. Характэрна, што Галадзед не атрымаў ніякага новага становішча. Старшынёю рады нар. камісараў назначаны Ваўковіч, другі сакратар ЦК Кам. Партыі Беларусі.

Не ад рэчы будзе тут успомніць, што Галадзед у лістападзе мін. году на зьездзе Саветаў у Маскве меў прамову, у якой адзначыў, што ў БССР апроч трацкістаў, дывэрсантаў і шпіёнаў існуе яшчэ небясьпека з боку „беларускіх нацыяналістаў", каторыя намагаюцца ўсьцяж падняць галаву проціў сав. ладу. Гэтыя дзейнікі—казаў Галадзед—імкнуцца да адарваньня БССР ад Саветаў.

## На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц травень*).

### У гішпанскім катле.

У гішпанскім катле ў месяцы траўні адбыліся важныя падзеі-ўзрывы. Гэты кацёл яшчэ раз паказаў, што ён ёсьць запальным пунктам, які можа выклікаць сусьветны пажар. Бо важна ня тое, што там б'юцца аж да зьнямогі ўжо блізу год два праціўнікі, але важна тое, што ў гэтай бітве бяруць удзел усе вялікія дзяржавы: Англія, Францыя, Італія, Нямеччына і Саветы. Францыя і Саветы жадаюць перамогі „людоваму" фронту, Італія і Нямеччына — паўстанцам, а Англія хоча пагадзіць двух праціўнікаў, з тым, каб паўстаў нейкі новы, кампрамісовы ўрад, не зьвязаны замнога ані з Італіяй ці Нямеччынай, ані з Саветамі. Англія, хоць зьбліжана да „чырвоных", ня хоча іх аканчальнай перамогі, бо тады Саветы мелі-б моцнага саюзьніка каля Гібралтару і маглі-б гразіць англ. гандлёвым дарогам; яшчэ болей ня хоча перамогі „белых", бо тады Італія разам з Нямеччынай пашырылі-б свае ўплывы ў Гішпаніі і яшчэ болей згразілі-б інтарэсам Англіі. Відаць, пад уплывам Англіі адбылася зьмена чырвонага ўраду ў Гішпаніі. Націск Англіі на ген. Франко, відаць, не удаўся (гэты болей залежны ад Італіі і Нямеччыны), дык усе сілы англ. дыплямацыі былі зьвернуты на „чырвоны" урад у Валенцыі, на чале якога стаяў „чырвоны" прэм'ер Лярго Кабалеро, якога звалі гішп. Ленінам. І трэба прызнаць, што тут англ. дыплямацыя дабілася пазытыўных рэзультатаў. „Чырвоны" ўрад Кабалеро ўступіў „бялейшаму" ўраду праф. Нэхрына. У гэтым Англія бачыла першы крок да згоды паміж „белымі" і „чырвонымі"... Але ген. Франко заявіў, што ў зьмене ўраду ён бачыць толькі бальшавіцкую хітрасьць і на згоду ня пойдзе. Пры гэтым паказаў, што і ў новым урадзе асталося двух камуністаў-сталінцаў...

На грунце „правеньня" ураду ў Валенцыі адбылося паўстаньне анархістаў у Барцэлёне (Каталёніі) і крывавае іх здушэньне войскам ураду ў Валенцыі. Да паўстаньня прычынілася такжа забойства камуністамі аднаго з анархістычных павадыроў Ант. Мартінэза. Анархісты (сындыкалісты) стаяць на грунце скасаваньня прыватнай уласнасьці, знясеньня рэлігіі і ў будучыне зьнясеньня дзяржаўнай улады (дзяржавы). Яны ў Гішпаніі маюць вялікія ўплывы і імкнуцца (разам з трацкістамі) да захапленьня ўлады ў свае рукі — што ім і ўдалося ў некаторых мясцох Каталёніі. Заахвочаныя ўдачай, яны задумалі зрабіць анархістычны пераварот у Барцэлёне, (сталіцы Каталёніі), але проціў іх выступіў рашуча „людовы" фронт, з Валенцыі было прыслана войска і анархісты былі разбіты. Дзеля нутранога неспакою палажэньне „людовага" фронту аслабела. У новы гішпанскі ўрад анархісты і прадстаўнікі праф. саюзаў не ўвайшлі.

Але найважнейшай падзеяй на грунце Гішпаніі, падзеяй, якая паставіла на ногі ўсю эўрапэйскую дыплямацыю, было закіданьне бомбамі з урадавых аэраплянаў нямецкага панцырнага карабля „Дэйчлянд", які правадзіў кантролю каля гішп. берагоў. Ад бомб згінула 25 чалавек і болей 70 ранена. Няма ведама, ці бомбы прабілі панцыр, ці трапілі праз незачыненую дзіру ў сярэдзіну карабля; фактам ёсьць, што яны зрабілі аграмаднае стусташэньне. Аднак „Дэйчлянд" яшчэ сваімі сіламі скіраваўся ў Гібралтар з апушчаным на знак жалобы сьцягам. Пры ўваходзе ў Гібралтар усе англ. караблі апусьцілі сьцягі... На першую вестку аб гэтым Гітлер склікаў вайсковую нараду і ў паветры запахла порахам... Атмасфэра яшчэ болей згусьцілася, калі нямецкія караблі пачалі страляць у порт і горад Альмерію, якая належыць да гішп. ураду. Стралялі набоямі 20 з пал. цэнтымэтраў у папярэчцы. Шмат дамоў збурылі, многа забітых і раненых. Гэта мела быць помста за „Дэйчлянд". Апроч гэтага Нямеччына заявіла, што яе караблі будуць страляць да ўсіх чырвоных аэрапляна і караблёў пры іх зьбліжэньні. Нямеччына заявіла пратэст у Камітэце неінтэрвэнцыі, з мандату якога яна правадзіла кантролю гішп. берагоў і задэкляравала свой выхад з Камітэту і кантролі, калі ёй ня будзе загварантавана бясьпечнасьць. Але на гэтым, здаецца, і скончыцца ўсё. Відаць, вайны яшчэ ня будзе...

Цікава, што Італія салідарызавалася ва ўсім з Нямеччынай, нават у справе выступленьня з Камітэту! Выпадак з „Дэйчляндам" папсуў усе англійскія пляны адносна адкліканьня „ахвотнікаў" з Гішпаніі і замірэньня. З другога боку — ён не давеў і да агульнай вайны, якую нехта хацеў справакаваць. Але хто? Найболей паказваюць на Саветы, для каторых агульная вайна была-б на руку, бо адвярнула-б ад іх небясьпеку наступу нямецкага і японскага фашызму. Паводле апошніх вестак забіўся ў самалётнай катастрофе ген. Моля, павадыр паўстанцаў на баскійскім фронце.

### Каранацыя новага англ. караля.

12 траўня адбылася пышная ўрачыстасьць каранацыі новага англ. караля Юрага VI. Аб разьмерах гэтай каранацыі мы пісаць ня будзем, бо на гэта ня маем месца, скажам толькі, што гэта каранацыя была найвялікшай з усіх даўнейшых. Бралі ў ёй удзел мільёны насельніцтва, тысячы прадстаўнікоў ад англ. калёніяў, сотні дэлетатаў ад розных дзяржаў (апроч Італіі), выдана мільёны фунтаў штэрлінгаў. Чаму такая пышнасьць? Справа ў тым, што павага англ. караля была моцна падважана рамансам Адварда VIII з Сімпсаніхай, тык трэба было вярнуць блеск англ. кароне. Апроч гэтага на ўсходніх народаў імя кароль, ды яшчэ англійскі, дзеіць быццам магічна—ўсё гэта заставіла англійскіх палітыкаў прыдаць каранацыі нябывалую пышнасьць. Але не абыйшлося і бяз „прыкрасьцяў": у сам дзень каранацыі Юрага VI Ірляндцы ў сваей сталіцы, Дубліне, ўзарвалі дынамітам помнік Юрага II, на знак пратэсту, што Юры VI каранаваўся такжа на ірляндзкага (айрышскага) караля.

Падчас каранацыі, карыстаючыся з зьезду, палітыкі і дыпляматы абраблялі свае інтарэсы. Гаварылі ўсе дыпляматы з усімі, найбольшую актыўнасьць праяўляла нямецкая дэлегацыя, якая старалася навязаць лучнасьць з Англіяй і Францыяй, і японская, якая з Англіяй хоча падзяліцца ўплывамі ў Кітаі. І быццам наступае зьбліжэньне Ням. з Англіяй, якая хоча адцягнуць Ням. ад Італіі, а такжа абгаворана справа падзелу Кітаю, прыгэтым Японія ўзяла-б пад свае ўплывы паўночны Кітай, а Англія — паўдзённы... Характэрная рэч, што вайны ўсе баяцца, нават Нямеччына і дзеля гэтага шукаюць перагавораў.

### У Саветах.

У нутраным Сав. жыцьці далей бурліць. Пасьля растрэлаў трацкістаў, наступаюць далейшыя растрэлы і рэпрэсіі. І так—растраляны польскі камуніст Домбаль, які з Польшчы ўцёк у Саветы і займаў там высокія становішчы (быў нават віцэ-старшынёй Бел. Акадэміі Навук і прычыніўся да рэформы бел. языка ў кірунку зьбліжэньня яго да расейскага языка) і арыштаваны (ці нават растраляны) другі польскі камуніст. пісьменьнік Бруно Ясенскі; кончыў самагубствам Гамарнік і г. д. Відаць, што Саветы ўсё яшчэ перажываюць глыбокі нутраны крызыс.

У траўні выйшаў дэкрэт аб утварэньні ў кожным ваенным вокругу вайсковых рэвалюцыйных радаў (рэввоенсоветаў), скасаваных ў 1934 г. Гэтыя рады, якія ўзноўлены пры Нар-камісарыяце Абароны і заен. вокругах, аддаюць сав. армію пад кантролю камуністычнай партыі, а лепш кажучы Сталіна, які, відаць, ня мае поўнага даверу да арміі. У склад рады ўваходзяць: начальнік вокругу і 2 дэлегаты кам. партыіі; ўсе загады выдаюцца за подпісам начальніка і прынамсі аднаго сябры рады. Кажуць, што ўтварэньне радаў было кампрамісам паміж Сталінам і Варашылавым. Маршал Тугачэўскі, які меўся ехаць у Лёндын на каранацыю, у апошні час адкліканы і назначаны на начальніка далёкага ад граніц Паволжскага вайск. вокругу. Тугачэўскі, як ведама, быў замешаны ў працэсе трацкістаў і выслаць яго заграніцу збаяліся.

Але найболей сэнсацыйным здарэньнем было самагубства выдатнага кам. павадыра Гамарніка, б. начальніка палітычнага кіраўніцтва савецкай арміі. Аб прычынах самагубства афіцыяльныя сав. кругі маўчаць, а сав. прэса падала вестку аб самагубстве на апошняй бачыне дробным друкам. Ня можна нават дасьледзіць, калі Гамарнік быў выключаны з ЦК Кам. Партыі, бо ў паведамленьні аб сьмерці сказана толькі, што ён быў „зьбліжаны да ЦК". Трэба адзначыць факт, што ў дэкрэце з дн. 11. V. г. г., якім быў назначаны марш. Егораў першым заступнікам Варашылава, нічога ня было сказана аб Гамарніку, які быў першым заступнікам... Магчыма, што гэта і прывяло Гамарніка да самагубства. Дагэтуль Гамарнік быў вельмі блізкай асобай да Сталіна.

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га ліпня.*

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт"! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.